I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Студзень 2016

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Палескія дармаеды



стар. 4

### З 1 студзеня плануецца знізіць акцызы на моцны алкаголь

стар. 7

### У Гомелі п'яны кіроўца збіў п'янага пешахода

стар. 7

### Зімовая гісторыя былога міліцыянта, сённяшняга качагара-п’яніцы з Гомельшчыны

стар. 2

# Зімовая гісторыя былога міліцыянта, сённяшняга качагара-п’яніцы з Гомельшчыны

***Народная мудрасць кажа, што работа не воўк, у лес не ўцячэ. Аднак, улічваючы цяперашняе дзяржцкаванне «дармаедаў», што крочыць па краіне шырокім крокам, за працай яшчэ як ганяюцца! Сашкамент вунь як бегае з адной працы на другую. І ніводную кінуць не можа, бо абедзве аднолькавыя. У гэтым ацяпляльным сезоне Санёк праявіў знаходлівасць і паспеў узяць у свае рукі ажно дзве качагаркі – шчасліўчык! Ацяпляць трэба і малочны завод, і крамы, і бібліятэку з Домам культуры. Піша Ядзя Бурштынава.***

*Саша працуе*

Сашка – важны чалавек у сваім пасёлку, без яго цётачкі з бухгалтэрыі дарожнага кіравання ператворацца ў ледзяшы, а прадавачка ў краме нос адмарозіць. Санёк і тут і там працуе качагарам. Штодня і штоночы літаральна разрываецца паміж дзвюма качагаркамі. А па марозу ведаеце як шпарка бегаецца! 800 метраў за пару хвілінаў. І гэта пры тым, што з Сашыных ног, як ён кажа, вены павымалі. Пасля такой аперацыі фізічныя нагрузкі і бег небяспечныя для здароўя. Хоць з-за цаласкладу і моцы ў руках – Сашка для ўсяго пасёлка галоўны памочнік. Пойдзе дапамагчы – абавязкова капейчыну заробіць, яшчэ і зверху нальюць, а Сашка вып’е.

Працаваць яму качагарам добра, бо каля дому праца, не трэба нікуды ездзіць, стаяць ды мерзнуць на прыпынку. Праўда, хоць бы і хацеў, то ў горад не паехаў бы, бо працы там не знайшоў. Хіба толькі на содні ісці качагарыць на адно са Светлагорскіх прадпрыемстваў. Але быламу міліцыянту гэткі доўгі працоўны дзень не да спадобы, хоць і заробак быў бы ў два разы большы, чымся за качагара ў дарожным упраўленні.

У марозны тыдзень накідае дроваў у качагарцы ў краме, ды і дадому бяжыць баявічок глядзець ці расейскія навіны, за што жонка яго крытыкуе. А Сашку што? Возьме свой вялікі паўлітровы




кубак з дзедам марозам і елкай, нальле аж да самых краёў ды сыходзіць з хаты ў… качагарку! У яго доме яна таксама ёсць. Раней, да з’яўлення газавага ацяплення, дровамі паліў. Не дарэмна ж Саня качагарам працуе. Можа гэта ў яго ў крыві ад нараджэння – дровы ў агонь кідаць.

Сядзім за сталом, пытаюся ў Сашы, якая ў яго філасофія жыцця. Паглядзеў на мяне вялікімі вачыма, усміхнуўся. Прамаўчаў, пацiснуўшы плячыма. Для яго гэтае пытанне занадта цяжкае, відаць пра такое не думае. Жыве сабе чалавек ды неба копціць – ды і ўсё жыццё.

-Я ўжо ўсю вясковую бібліятэку перачытаў. Там жа талковых кніжак няма. Каб болей гістарычных, пра Чынгісхана, Тамерлана, Суворава, – прыцмоквае бяззубым ротам. Саша прачытаныя кнігі з фільмамі параўноўвае. Калі патрапіць рэжысёр з задумай, тады Санёк ледзь не крычыць сваё натхнёнае «О-о-о якое кіно! Вещь!»

*Саша п'е*

За працу ў краме Санёк атрымае смешныя грошы – 1,4 млн. І гэта пры тым, што перш чым закінуць дровы ў кацёл, іх спачатку трэба пакалоць. Саша крыўдзіцца на раённае спажывецкае таварыства, якому належыць крама, бо качагарам з суседняй старой вёскі, што паблізу ад яго пасёлка, запрапанавалі большы заробак за такую ж працу. Ды і тым качагарам прасцей працаваць – на іх працоўным месцы катлы новыя. От, можа ад несправядлівасці Саня і п’е ўсё жыццё. Як тут без бутэлькі, калі гадзіна яго дзённай працы ў дарожным кіраванні каштуе толькі 10 тысячаў, ноччу стаўка трохі вышэйшая. Такія тарыфы трымаюцца ўжо некалькі гадоў. Зарабіць прыстойныя грошы працаўніку не ўдаецца, хоць гэтай зімой і мае два працоўныя месцы. Прыйдзе лета – абодва страціць.

Ягоныя вакацыі доўжацца прыкладна ад канца красавіка да пачатку новага ацяпляльнага сезона, які паўгода чакаць трэба. Летась свой зацяжны адпачынак 54-гадовы Сашка-мент «пратунеядзіў», за што яго жонка, ужо пенсіянерка, не карміла.

З мінулага лета не гатуе ся-

мейную вячэру. Жывуць пад адным дахам, толькі гаспадарка ў кожнага свая. Ну і ложкі асобна стаяць. Жанчына кажа: «А навошта мне яго карміць са сваёй пенсіі, калі ён дзень спіць, ці валочыцца па вёсцы, выпіўку збірае. А тады нажарэцца, як свіння і ў хату паўзе».

Піў Сашка-мент і ў маладосці, асабліва калі быў ліквідатарам пасля чарнобыльскай катастрофы. Ахоўваў Брагін, былі псіхалагічна цяжкія часы. Піў, калі працаваў на будоўлі ў Бабруйску – рыхтавалі горад да Дажынак. Тады было фізічна цяжка. Ужываў чарніла ў часы працы дворнікам у мясцовым санаторыі. Мусіць, ад суму заліваў у горла. Ці ад настальгіі.

Адзіныя радасныя запоі, па ўспамінах Сашкі – падчас працы ў міліцыі. О тады пасля працоўнага дня, ці ў святы пілі якасныя дарагія напоі. За гэта і паважае цяперашні качагар СССР.

А яшчэ за модныя джынсы і смачную закуску. І за добры заробак! Саша прызнаецца, што пры саветах яго жыццё было, як песня. Цяпер жа ходзіць, як бомж, у пракураных «Прымай» ды «Астрай» спартыўных штанах і масцерцы.

Піць, ды галоўнае – мазгі не прапіць. Для мясцовых – гэта слушная перасцярога. Калісьці, адзін з Сашыных суседзяў бінзапілою мэблю ў доме парэзаў. Мой герой так не буяніць у сябе. Бо мэблі ў яго і так мінімум. А ўвогуле, жывуць як на будоўлі. У прыхожай нават шпалераў няма. Замест іх – цэгла. Ужо год пяць рамонт ніяк не даробіць. Сашына маці дапамагае, збіраючы для сынавай сям’і грошы. На яе падарунак у доме паставілі пластыкавыя вокны і металёвыя добрыя дзверы. У Сашы на такую раскошу грошай няма. А грошай няма, бо працу з добрым заробкам не можа знайсці. А без працы і без заробка – толькі ў запоі. Саша расказаў, што мінулым летам бегаў у гараж да сябра, там стаялі вялікія пластыкавыя бочкі з самаробным віном.

З сінім носам тут не толькі качагар ходзіць. Глушаць з гарла і жанчыны. Што жанчыны, сам святар яшчэ які аматар беленькай! Расказваюць, што пасля велікоднай службы сабраліся царкоўныя служкі з прыхаджанамі ў хляве на тэрыторыі царквы, ды стол накрылі, добра пасядзелі-пагудзелі.

*Трохкутнік на літару «Ч»*

Як паказвае «Google maps», пасёлак, у якім жыве Сашка, ад гораду знаходзіцца ў сямі кіламетрах. Гарадскі транспарт – гэта бадай што адзіная радасць у мясцовых, хоць і далекавата ісці трэба да прыпынку. Калі неахвота ногі таптаць, людзі едуць на маршрутцы. Да гораду 8 тыс., што ўдвая даражэй за грамадскі транспарт. Праўда, на маршрутцы толькі да чыгуначнага вакзалу даедзеш, а на аўтобусе без перасадак ажно на другі канец гораду.

Сашын пасёлак сучасны. Будаваўся для пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС. З назвай новага населенага пункту ўлады не арыгінальнічалі. Ахрысцілі яго Чыркавічамі, як і старую вёску, што стаіць за рэчкай Чыркай, праз поле. Цягам часу ў тым полі яшчэ адны Чыркавічы выраслі – аграгарадок. Так і адбылося, што ў ваколіцы тры «Ч». Ды хоць бы і чатыры «Ч», працаваць мужчынам усё роўна няма дзе. Жаноцкіх месцаў тут болей, як не злуйся на гендарную раўнавагу. Біблятэкаркі, выхавацелькі, фельдшаркі, настаўніцы, паштальёнкі, бухгалтаркі, швачкі і… качагар Сашка.

*Гульні з чортам*

І адзін кут таго трохкутніка на літару «Ч», я знайшла. Ішла па дарозе і раптам прыпынілася насупраць бетоннай сцяны, што адгароджвае тэрыторыю крамы. А на ёй, высокай і белай сцяне, блакітнай фарбай афарызмы напісаныя. Над адным з іх дымок у неба б’е, бачна, што хтосьці і тут качагарыць. «Труд – душа гения» – гучыць так паэтычна. Аднак, гэта толькі ўрывак думкі Нобэлеўскага лаўрэата Анатоля Франса аб тым, што «Праца – гэта душа геніяльнасці, сэрца таленту, яна – унутраны агонь усялякага таленту». Агонь таленту.

Менавіта дзякуючы агню ў качагара Сашкі абудзіўся талент пісаць вершы. Добра паддаты, (што значыць, крыху мацней, чым нападпітку), аўтар чытаў мне свае няскладныя рыфмы. Проза ў яго атрымліваецца лепшая, больш уразная. Але ж і страшная яна. Пра д’ябла, пра сілы светлыя і цёмныя, пра адвечную барацьбу за душу чалавека. Спярша падумала, што Санёк занадта шмат фантастыкі наглядзеўся, аднак пасля даведалася, што яму цяжка даюцца выхады з запояў.

Сам распавёў: «Такое адчуванне, што хтосьці сядзіць унутры і залівае тое піва. Мой страўнік нібыта бяздонная бочка. Я кажу яму, там, хто прымушае мяне піць, што болей не магу, ды і не хачу. А ён усё залівае і залівае. І дна не бачна».

Чартаўшчына з Санькам адбываецца. У яго хтосці залівае. А ён пасля вылівае, дакладней, высцыкае каля ганку пад вінаград. І брыдкасловіць. Што п’яны, а што цвярозы, а такія мацюкі гне! А каб была ў чалавека сталая праца з добрым заробкам – душа чалавека адразу б пасвятлела. Бо там, унутры качагара, пуста мабыць ад дармаедства.

Дарэчы, француз Анатоль Франс ахвяраваў сваю Нобелеўскую прэмію галадаючым у Расеі падчас грамадзянскай вайны ў мінулым стагоддзі. І хтосьці з адукаваных чыркаўчан увекавечыў за гэты ўчынак літаратара на бетоннай сцяне, напісаўшы тое самае, запаветнае: «Праца – душа геніяльнасці».

*Ядзя Бурштынава*

# Палескія дармаеды

***Дзявяты месяц я не магу ўладкавацца на працу. Сёння я дакладна ведаю адказ на пытанне, чаму памірае беларуская вёска. Тут застаецца толькі непатрэбшчына – тое, што не здольнае да канкурэнцыі з горадам. Разумныя вяскоўцы рэалізуюцца ў горадзе. Разумныя гараджане рэалізуюцца за мяжой. Дзяржаўная вертыкаль не ўмее выкарыстоўваць свой галоўны патэнцыял – людзей. Таму мы паціху з'зджаем, каб жыць у адпаведнасці са сваймі здольнасцямі. З'язджаем з вёскі. З'язджаем з Беларусі.***

*Хто хоча – не можа, хто не хоча – мусіць*

На менскім балконе я думаў, што знайсці працу ў вёсцы не складана. Заробкі тут малыя, людзей няма, дый адныя пенсіянеры, працаваць ніхто не хоча. Думаў, прыеду, а мяне чакаюць з чаркай-скваркай. Мясцовы народны калектыў у фабрычных строях праспявае рытуальную песеньку. Плячысты старшыня ўрачыста паціcне маю руку, прамовіць нешта кшталту: «Усё будзе добра. Мы не кінем у бядзе, дружа. Будзеш жыць, як у Бога за печчу».

Ну, добра, з скваркай не сустрэлі. Мо не ведалі, што я прыеду. Мо пасаромеліся. Аднак цешыцца ж будуць, калі я скажу, што хачу настаўнічаць у школе – гэта я так разважаў. Такое шчасце звалілася – чалавек са сталіцы, з добрай адукацыяй, з ахвотай.

Але і тут быў абломчык. Тры навакольныя школы – Аўцюкоўская, Юравіцкая, Бярозаўская – маюць укамплектаваныя штаты. Апроч настаўнікаў-пенсіянераў з марксісткай загартоўкай, сюды заганяюць маладых спецыялістаў пасля вучобы.

Калі размеркавальны тэрмін скончыцца, маладыя спецыялісты з'едуць, на іхныя месцы прыгоняць новых. У гэтым кругавароце няма дзіркі, каб мог працісунуцца чалавек з ахвотай настаўнічаць. Гэта дзіўная неэфектыўная схема: хто хоча – не можа, хто не хоча – мусіць.

*«Пазваніця туды»*

Я не быў гатовы да таго, што прыйдзецца прымыкаць вока, хадзіць, прасіць працу. Усё, што мне раілі там, на вялікай зямлі, я выконваў. Сябры кажуць: усюды патрэбны сацыяльныя работнікі, ідзі і працуй. Я падумаў, – чаму не? Людзей люблю, буду слухаць байкі, мыць падлогу, хадзіць у краму – нармальная праца. Аднак штат укамплектаваны. Вакансіяў няма – ва ўсім Калінкавіцкім раёне.

– К сажаленію, вакансій нету.
– Не, няма.
– Вакансіі? Не, што вы!
– Што-што?
– Якія вакансіі?
– Пазваніця туды.
– Пазваніця сюды.
– Няма.
– Нету.
– Не будзе.
– Не было.
– Нас няма.
– Вас няма.




*Вясковы блат*

Мне кажуць: патрабуецца пратэкцыя. Каб уладкавацца ў вёсцы прыбіральшчыцай, патрэбны блат. Мая сваячка на мінулых выбарах была старшынёй мясцовай выбарчай камісіі. Сёння яна прыбіральшчыца – мые падлогу ў калгасным будынку.

У вёсцы на месца прыбіральшчыцы чарга. Паштальёны, прадавачкі – з мільёнам дзевяцьсот – трымаюцца за свае крэслы, як кляшчы за скуру. Пасля смерці, мне ўжо так здаецца, пасады разам з хатамі пяройдуць іхным нявесткам па тастаменце.

Для працы ў калгасе я не падыходжу – не маю правоў кіроўцы, не ўмею працаваць з тэхнікай. Каюся, гуманітарый.

*Свая гаспадарка*

Агарод дапамог мне выжыць увесь гэты перыяд, што я шукаў працу. Ён дапамагае мне дагэтуль. Я, напэўна, адзіны прудкавец, у каго ў сярэдзіне лістапада яшчэ ёсць свежыя памідоры і маладыя кабачкі.

Калі не ленавацца, то можна яйкі, малако не купляць у суседзяў, а мець свае. Кажуць, гэтым можна зарабляць. Мне і пра пчальнік нараілі, і пра страусаў. Аднак пасля ўсіх расчараванняў, я і тут шукаю каверзу. Можа недзе нехта гэтым

зарабляе, у сваёй ды навакольных вёсках я не маю да каго схадзіць і паглядзець. Мо ў мяне раён такі, дзе ўвогуле нічога немагчыма? Мо там, у шчаслівай Беларусі, усё інакш? Прынамсі, да фермерства даўгі шлях. Напэўна, я пайду ім. Але пакуль што наперадзе толькі зіма.

*Карміцца Масквою*

Калінкавічы жывуць на расейскія рублі. Любы чалавек на вуліцы вам скажа, які цяпер курс. Тры з шасці маіх дваюрадных братоў у дадзены момант нешта будуюць пад Масквой. Праз месяц-два яны вернуцца, прывязуць модных гаджэтаў і дыскаў з расейскімі серыяламі. Наступны сезон будуць сядзець за камп'ютарамі, гуляцца ў танчыкі і глядзець тыя серыялы. Пакуль не скончацца грошы.

А калі скончацца, ізноў паедуць пад Маскву ці пад Піцер. Жонкі насмажаць ім катлет, намяшаюць кампотаў. Мне брат сказаў: «Не хачу ехаць. НЕ ХА-ЧУ. Але ў мяне няма выйсця. Жонка пачынае бурчэць, што няма грошай». У мяне не толькі грошай няма, але і жонкі. Ніхто не бурчыць, то можна й не ехаць.

*Дармаеды*

Дзядзя Вова з Аўцюкоў кажа, што ўся бяда ў тым, што ў нашай краіне дазволена працаваць пенсіянерам. Пенсіянеры працуюць, маладыя сядзяць на лаўках. Як у Аўцюках тры хлопцы. Як я ў Прудку. Мы дармаеды. Мы не плацім падаткі на вайсковыя парады па тэлевізары, на ілюзію ўсеагульнага шчасця.

Ты ўпарта шукаеш працу, расчароўваешся ва ўсім, канчаткова губляеш надзею. А потым паглядзіш на сябе ў люстэрка, а там стаіць дармаед. Як так атрымалася? Я ж працаваў у Менску па 14 гадзін. Я ж люблю працаваць.




У суседнім Боруску жыве мой дваюрадны дзядзька Валодзя. Ён майстар па дрэве, якіх ва ўсёй Еўропе можна пералічыць. Пры належных умовах дзядзька мог бы быць вельмі паспяховым чалавекам. Аднак ён нават сваёй хаты не мае, жыве ў састарэлых бацькоў, а зарабляе тым, што сячэ суседзям дровы. І ён і я – непатрэбныя гэтай краіне людзі. Нас няма. З гэтай нагоды ён ужо пачаў піць, а я яшчэ буду змагацца.

*Андрусь Горват*




# У Светлагорску мужчына памыліўся адрасам, раззлаваўся і зарэзаў гаспадара кватэры

***Бяда здарылася днём 4 студзеня.***

У адну са светлагорскіх кватэр пагрукаў невядомы мужчына. Як аказалася, п'яны госць шукаў сваячку. Гаспадар растлумачыў, што той памыліўся адрасам і зачыніў дзверы. Праз некаторы час у кватэру зноў пагрукалі. На парозе стаяў усё той жа мужчына і ізноў патрабаваў, каб сваячка выйшла да яго.

«Гаспадар адказаў, што нічым не можа дапамагчы, і паспрабаваў зачыніць дзверы, — распавяла папярэднюю версію падзей афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. — Аднак незнаёмы праявіў настойлівасць, на парозе завязалася бойка. Нечакана буян дастаў свой нож і пырнуў гаспадара кватэры ў грудзі».

Сведкам бойкі стаў госць пацярпелага. Калі ён паспрабаваў разняць мужчын, нападнік уцёк. Відавочца выклікаў хуткую дапамогу, паведаміў аб нападзе ў міліцыю і апісаў прыкметы злачынцы.

Пацярпелага хлопца даставілі ў бальніцу ў рэанімацыйнае аддзяленне. Аднак рана апынулася смяротнай, ноччу ён памёр. Падазраванага затрымаў дзяжурны патруль міліцыі на цэнтральнай плошчы Светлагорска. Госцем аказаўся 39-гадовы непрацуючы мясцовы жыхар. Па факце забойства ў дачыненні да яго заведзена крымінальная справа.

*Наша Ніва*

# Работніца банка ў Жлобіне за некалькі гадоў пакрысе накрала са сховішча на 20 тыс. даляраў

***Жлобінскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу ў дачыненні да загадчыцы кладоўкі каштоўнасцей адной з банкаўскіх устаноў Жлобіна. Жыхарка райцэнтра падазраецца ва ўчыненні злачынства па ч. 4 арт. 210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены ў асабліва буйным памеры).***

Падставай для распачынання крымінальнай справы сталі матэрыялы праверкі, праведзенай супрацоўнікамі УБЭЗ УУС Гомельскага аблвыканкама і АБЭЗ Жлобінскага РАУС.

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, падазроная 1976 года нараджэння з 2011 года па лістапад 2015 года ўчыніла крадзеж наяўных грашовых сродкаў банка з памяшкання кладоўкі на агульную суму 15.200 долараў і 4.000 еўра.

Праводзяцца неадкладныя следчыя дзеянні, накіраваныя на ўстанаўленне ўсіх акалічнасцяў здарэння, а таксама прычын і ўмоў, якія садзейнічалі ўчыненню злачынства, паведамляе СК. Робяцца захады да кампенсавання прычыненага ўрону.

Канчатковая прававая ацэнка здарэнню будзе дадзена па выніках расследавання, адзначылі ў ведамстве.

*БелаПАН*

Замовіў у рэстарацыі грэцкую салату. З'еў. Адзінагалосна прагаласаваў за тое, каб не плаціць і сыйшоў.

# Мужчына, які спаліў жыўцом траіх сабутэльнікаў за пафарбаваныя пазногці, атрымаў 23 гады турмы

***Падчас п'янкі на працы сябры пафарбавалі чырвоным лакам пазногці свайму сабутыльніку. Той не зразумеў жарту, абліў калег бензінам і спаліў жыўцом. Гомельскі абласны суд прысудзіў яго да 23 гадоў пазбаўлення волі.***

На выязным, адкрытым судовым паседжанні ў Лельчыцах суд задаволіў патрабаванне боку дзяржабвінавачвання, які патрабаваў 23 гадоў зняволення для 35-гадовага абвінавачванага за забойства траіх чалавек з асаблівай жорсткасцю.

Трагедыя здарылася ў красавіку ў Лельчыцкім раёне, калі на хаду загарэўся аўтамабіль мясцовага прадпрыемства меліаратыўных сістэмаў.

У машыне было некалькі чалавек – усе, апроч кіроўцы, былі п'яныя. У фургоне паміж працоўнымі адбыўся канфлікт, і адзін з іх выліў на сваіх калегаў бензін і кінуў запалку. Распачаўся пажар, праз які пацярпелі чатыры асобы. Траіх з сур'ёзнымі апёкамі даставілі спачатку ў раённы шпіталь, а пасля перавезлі ў Гомель. Аднак дактары не далі рады выратаваць мужчынаў. Наймаладзейшаму з іх было 29 гадоў.

Канфлікт адбыўся з-за жарту. Пасля таго як працоўныя выпілі, абвінавачваны заснуў. У аднаго з сабутэльнікаў быў пры сабе чырвоны лак для пазногцяў, які ён знайшоў на вуліцы. Мужчына вырашыў пажартаваць і пафарбаваў таварышу пазногці. Калі абвінавачаны прачнуўся, ягоныя крыўдзіцелі ўжо спалі. Мужчына вырашыў адпомсціць і абліў бензінам ды падпаліў сваіх калег.

Апроч цяжкага і двух асабліва цяжкіх злачынстваў, лельчуку інкрымінавалася таксама знішчэнне маёмасці і прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры – за спалены грузавік. У кошт пакрыцця кошту за яго з мужчыны ўжо спагнана 209 млн рублёў.

Абвінавачаны сваю віну ў судзе не прызнаў.

*belsat.eu*



# З 1 студзеня плануецца знізіць акцызы на моцны алкаголь

***1 студзеня 2016 года стаўкі акцызаў на моцныя алкагольныя напоі могуць быць зніжаны. Паводле інфармацыі БелаПАН, меры па падтрымцы алкагольнай галіны прадугледжвае праект бюджэту на наступны год, які знаходзіцца на разглядзе ў парламенце.***

У прыватнасці, размова ідзе аб тым, каб стаўкі акцызаў на моцныя алкагольныя напоі знізіліся на 7,4%. Акрамя таго, у наступным годзе прадугледжана зніжэнне ставак акцызаў на віны пладовыя мацаваныя на 7,5%. Праект бюджэту таксама прадугледжвае захаванне ставак акцызаў на піва на нязменным узроўні ў наступным годзе.

Пералічаныя меры накіраваны на стабілізацыю сітуацыі з вытворчасцю алкагольнай прадукцыі ў краіне і паляпшэнне фінансавага становішча прадпрыемстваў галіны.

Звесткі афіцыйнай статыстыкі за студзень—верасень сведчаць аб зніжэнні рэалізацыі алкагольнай прадукцыі на ўнутраным рынку. Так, у студзені—верасні гэтага года аб'ём рэалізацыі моцных алкагольных напояў на ўнутраным рынку знізіўся на 18%, він пладовых мацаваных — больш чым на 20%, піва — на 3,9%.

Акрамя таго, звесткі аб фінансавых паказчыках адкрытых акцыянерных таварыстваў, абнародаваныя Мінфінам восенню гэтага года, сведчаць аб тым, што многія вытворцы алкагольных напояў у першым паўгоддзі 2015 года атрымалі страты.

Так, «Мінск-Крышталь» у першым паўгоддзі атрымаў страты ў 13,3 млрд. рублёў, адмоўны вынік фінансавай дзейнасці Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода склаў 8,5 млрд. рублёў, Брэсцкі ЛГЗ «Белалка» атрымаў страты ў памеры 10,2 млрд. рублёў.

Акрамя таго, стратнымі, паводле звестак Мінфіна, у першым паўгоддзі з'яўляліся лікёра-гарэлачныя заводы ў Віцебскай, Гомельскай і Гродзенскай абласцях.

***

Нагадаем, у жніўні гэтага года неспрыяльная сітуацыя, якая склалася ў алкагольнай галіне, разглядалася на нарадзе з удзелам прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка растлумачыў бядотнае становішча спраў у алкагольнай галіне агрэсіўнай падатковай палітыкай, якая праводзілася ў краіне ў апошнія гады.

«Акцызная палітыка, якую прапаноўваў урад і сёння прапаноўвае, практычна ўграбіла, як кажуць спецыялісты, галіну. Акцызы прывялі да павелічэння цаны і разам з кантрафактам да зніжэння попыту на гэтую прадукцыю, а значыць страты бюджэту»,— падкрэсліў Лукашэнка і запатрабаваў навесці парадак у сферы вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі ў краіне.

*nn.by*

Я прачытаў, што тлустая ежа шкодная, таму перастаў есці тлустую ежу.
Я прачытаў, што паленне шкоднае, таму перастаў паліць.
Я прачытаў, што алкаголь шкодны, таму перастаў чытаць.

# У Гомелі п'яны кіроўца збіў п'янага пешахода

***У Гомелі на вуліцы 60 гадоў БССР п'яны кіроўца учыніў наезд на п'янага пешахода***

Кіроўца 1956 года нараджэння ў стане алкагольнага ап'янення на аўтамабілі «Фольксваген-Туран» у раёне прыпынку грамадскага транспарту ўчыніў наезд на пешахода 1970 года нараджэння. Як паведамілі ва ўпраўленні ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, пешаход таксама знаходзіўся ў нецвярозым стане і перабягаў дарогу ў неўстаноўленым месцы блізу пешаходнага пераходу.

У ДТЗ пешаход атрымаў траўмы галавы і ўдар грудной клеткі і быў шпіталізаваны ў нейрахірургічнае аддзяленне абласной бальніцы.

У нейрахірургію абласной бальніцы трапіла і пешаход 1961 года нараджэння, якая ў Гомелі пераходзіла дарогу на забараняльны сігнал святлафора. ДТЗ адбылося на Рэчыцкім праспекце. На жанчыну наехаў кіроўца аўтамабіля «Таёта-Пікнік». Пешаход атрымала страсенне мозгу.

*БелаПАН*

# У Акцябрскім міліцыянер-пенсіянер разбіў аўтамабіль даішніку

***У дачыненні да жыхара Акцябрскага (Гомельская вобласць), пенсіянера МУС, распачатая справа на падставе ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства).***

Як паведамілі ў праваахоўных органах, 22 лістапада пенсіянер МУС, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, пашкодзіў аўтамабіль «БМВ», які належыць супрацоўніку ДАІ. Пазней падазроны растлумачыў, што супрацоўнік Дзяржаўтаінспекцыі пазбавіў правоў на кіраванне аўтамабіля яго сына, і такім чынам мужчына адпомсціў.

Мерай стрымання абраны дамашні арышт. Падрабязнасці высвятляе следства.

*БелаПАН*

# ДРАНІКІ

БУЛЬБУ ДРОБНА НАДЗЕРЦІ, ЗЛЁГКУ АДЦІСНУЦЬ ЛІШКІ СОКА

ДАДАЦЬ: СМЯТАНЫ 1 СТ. Л.

МУКІ 2 СТ. Л.

СОЛЬ

СМАЖЫЦЬ НА АЛЕІ 3 ДВУХ БАКОЎ

ЕСЦІ ГАРАЧЫМІ АДРАЗУ З ПАТЭЛЬНІ СА СМЯТАНАЙ

МАЛЯВАЛА КСЕНІЯ КАЧАВАНАВА

УСЕ СУВЕНІРЫ НА ARTSOUVENIRS.BY

ПРОСТАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЕЖА

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Студзень 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA